PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 23 (1830) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 9 ЧЭРВЕНЯ 1991 г. ЦАНА 800 зл.




У днях 16—19 мая гэтага года ў гайнаўскім саборы Святой Тройцы адбыўся X Міжнародны Фестываль царкоўнай музыкі. Першыя тры дні былі прысвечаны конкурснаму праслухванню васемнаццаці хораў — удзельнікаў фестывалю. 19 мая ў Гайнаўскім доме культуры журы фестывалю аб'явіла вынікі конкурсу ды адбыўся першы канцэрт лаўрэатаў.

Калі 10 гадоў таму дырэктар Гайнаўскага дома культуры Мікалай Бушко з жменькай прыхільнікаў замахнуўся арганізаваць „Дні царкоўнай музыкі", атрымалася сціплая ў сваёй форме імпрэза — прымалі ў ёй удзел адно прыхадскія хоры. З цягам часу, аднак, фестываль набываў штораз большы размах, бо, з аднаго боку, публіка станавілася больш патрабавальнай, а з другога, поспех саміх арганізатараў падбадзёрваў іх сягаць вышэй. Ад нейкіх чатырох гадоў фестываль займеў устойлівую форму — прымаюць у ім удзел прыхадскія хоры, свецкія аматарскія, свецкія прафесіянальныя, ды таксама і такія, якія не належаць да ніводнае з гэтых катэгорыяў. Сёлета арганізатары зрабілі, бадай, апошні ўжо крок у кірунку выпрацавання канчатковай формулы імпрэзы — перайменавалі яе з „Дзён царкоўнай музыкі" на міжнародны фестываль.

Журы сёлетняга юбілейнага выпуску фестывалю мела нялёгкае заданне. Удзельнікі конкурсу прадставілі высокі артыстычны ўзровень. Над размеркаваннем месцаў і ўзнагарод у пасобных катэгорыях працавала пяць асоб: праф. Рамуальд Твардоўскі (кампазітар, выкладчык Музычнай акадэміі ў Варшаве, ён жа ўзначальваў журы), Марцэля Эрэгіна (музыказнавец). Ян Сязонаў (прадстаўнік Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы), Гай Пікарда (музыказнавец, супрацоўнік Бібліятэкі і Музея імя Ф. Скарыны ў Лондане). Бурлівыя воплескі падчас аб'яўлення Рамуальдам Твардоўскім вынікаў конкурсу даказалі, што густ публікі і рашэнне спецыялістаў ад музыкі не разышліся. У катэгорыі прыхадскіх хораў

(Працяг на стар. 6)

## „Наша Ніва" - працяг

**Размова з Сяргеем Дубаўцом, рэдактарам і выдаўцом газеты „Наша ніва".**

— *Сяргей, чаму якраз „Наша ніва"? Не мог назваць сваю газету іначай?*

— Узнікла такая агульная ідэя, каб аднавіць беларускую журналістыку, якой у нас няма...

— *Як, няма? Газет і часопісаў на Беларусі шмат...*

— Газет і часопісаў шмат, але яны ўсе аднолькава небеларускія... Таму што робяць іх несвядомыя людзі, не беларусы...

— *А што ты разумееш пад назовам „беларуская журналістыка"?*

— Што такое свядомы беларус, свядомы беларускі журналіст, на той прыклад? Гэта чалавек, які ў жыцці самарэалізуецца праз сваю беларускую нацыянальную прыналежнасць, праз сваю нацыянальную культуру, я б сказаў, праз свае пароду... Тады ён самарэалізуецца адэкватна сваёй прыродзе. Гэтага няма, калі яго накіроўваюць у нейкія „нішы", ці то расейскую, ці то польскую, ці, агульна, савецкую...

—*У гэтым кантэксце: ці ты лічыш, што старая „Наша ніва" (1906-1915) якраз і была гэткай газетай, дзе беларуская журналістыка рэалізавалася адэкватна сваёй нацыянальнай натуры?*

— Людзям са старой „Нашай нівы" нішто не перашкаджала быць беларусамі, яны імі проста былі, без нейкіх дадатковых суаднясенняў, як у наш час, калі такіх беларусаў, проста беларусаў, вельмі няшмат... Таму тая „Наша ніва" рэалізавалася адэкватна беларускасці.

— *Мне здаецца, што зараз беларускае слова мае іншага чытача (у сэнсе яго грамадскага статусу), чымсьці ў час старой „Нашай нівы". На якога чытача разлічана тваё выданне?*

— Мне ўяўляецца, што чытачамі гэтай газеты будуць якраз такія „безадносныя" беларусы, аб якіх я казаў... Іх, можа, няшмат, але яны пакуль што не маюць свае газеты... Усім нам убівалі ў галовы, што „Наша ніва" была такім папулісцкім вы-

(Працяг на стар. 4)

## ШТО МІНІСТРЫ СКАЗАЛІ БЕЛАРУСАМ?

**13 мая наведалі Беласточчыну віцэ-міністр культуры Рэчыпаспалітай Польскай Міхал Ягела і міністр культуры Беларускай Рэспублікі Яўген Вайтовіч. Шмат свайго часу абодва міністры адвялі на сустрэчы з беларусамі, адна з якіх адбылася ў Галоўным праўленні БГКТ. Прынялі ў ёй удзел прадстаўнікі існуючых у Польшчы беларускіх арганізацый — згуртаваных зараз у Радзе беларускіх арганізацыяў.**

**Сустрэчу распачаў уводна-прывітальным словам старшыня БГКТ д-р Аляксандр Баршчэўскі, які ў далейшым кіраваў дыскусіяй.**

**На форуме Рады беларускіх арганізацый узнікла ідэя стварэння Цэнтра беларускай культуры ў Польшчы. Як Міністэрства культуры Польшчы глядзіць на гэту справу?**

**Ідэя стварэння Цэнтра беларускай культуры вядомая міністэрству. Паколькі ў Польшчы жывуць беларусы, ідэя гэтая і добрая, і слушная. Узнікае толькі пытанне: дзе мела б знаходзіцца такая ўстанова? Польскі ўрад фінансава заангажаваўся ў пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы, на працяг якое не хапае зараз сродкаў. У такой сітуацыі трэба вырашыцца на нешта — альбо цэнтр, альбо музей, бо ўрад не ў змозе адначасова ангажавацца ў дзве вялікія ініцыятывы. Тым не менш, Міністэрства культуры будзе рабіць стаpанні, каб здабыць сродкі на заканчэнне пабудовы музея, бо ўсё тое, што дагэтуль улажыла ў пабудову, не змарнавалася.**

**Ці не было б магчымым датаваць беларускую культуру з падаткаў, якія беларусы Беласточчыны плацяць у дзяржаўны бюджэт, ствараючы гэтым самым гарантыю яе развіцця?**

**Такі спосаб датацыі абазначаў бы новы механізм падзелу дзяржаўнага бюджэту, а гэту справу можа вырашыць толькі парламент. Па-другое: такі механізм датацыі адрываў бы беларускую меншасць ад натуральнага арганізму, у якім яна функцыянуе.**

**Прадстаўніцтва Міністэрства культуры Беларусі ўпершыню на Беласточчыне ды паставіла сабе мэту — перш за ўсё азнаёміцца з праблематыкай беларускай меншасці ў Польшчы. Мы супраць, гаварыў міністр культуры Беларусі, паланізацыі Беласточчыны ці абеларушчвання польскай мяншыні на Беларусі. Нацыянальныя меншасці маюць неаспрэчнае права на дзяржаўную дапамогу, бо без яе іхнім культурам не выжыць. Вялікая тут роля цэнтраў культуры, якія выдатна прычыняцца адраджэнню нацыянальнай культуры беларусаў на Беласточчыне і палякаў на Беларусі.**

**В. П.**

**Фота Аляксандра Максімюка**



Злева: Міхал Ягела і Яўген Вайтовіч.

# БЫЛА ТАКАЯ ХВІЛІНА РАДАСЦІ

„Стаю на крутым беразе Нараўкі, над паплаўком. Нада мною раскошнае сонца, жаваранкі і белыя воблачкі. Плывуць паволі, амаль не плывуць. І высока, высока!..

У кустах перасвіст салаўёў ды разгублены, ці што, зязюлін сум. На кветках у траве гаспадарліва завіхаюцца пчолы. Лёгкі ветрык прыносіць пах першых пракосаў. І на душы прыемна, светла!"

Так пачынае Янка Целушэцкі свой зборнік „Імгненні". Такой і ёсць яго творчасць, якая поўнасцю вырастае з дзяцінства, да сёння блукаючага недзе па наднараўчанскіх лугах Ляўкова, пераклікаецца з гоманам Белавежскай пушчы, пад песню якой вырастаў аўтар. Сум прамінання і ўспамін мінулага рэхам ціснецца ва ўражлівую душу паэта, складаючыся ў каляровыя, цёплыя абразкі. Так, паэта. Хаця зборнік, за выключэннем некалькіх твораў, утрыманы графічна ў форме прозы, дык з мастацкага боку з'яўляецца ён поўнасцю паэтычным.

Няма патрэбы бліжэйшага знаёмства чытача „Нівы" з Янкам Целушэцкім. З тыднёвікам гэтым звязаны ён ад дзяцінства. Потым працаваў у ім журналістам. Больш чвэрць стагоддзя мінула ад яго дэбюту на „Літаратурнай старонцы". Пачынаў паэтычнымі мініяцюрамі. Потым пісаў паэзію. І ўрэшце паявіўся зборнік, выдадзены на кошт аўтара.

— Найбліжэйшыя мне, як заявіў сам аўтар, — з'яўляюцца лірычныя мініяцюры і апавяданні.

Аднак, калі чытач возьме ў рукі гэты зборнік, сам пераканаецца, што яго аўтар да канца з'яўляецца паэтам. Прыкладна:

„Не хадзіў на спатканні ў сцішэлую пару змяркання.
Біў тады ап'яняючы пах смуродзіны і мацейкі.
Ночы тыя, што сплывалі на разгойданых, пружыністых хвалях, мы праседжвалі да канца.
Мы бачылі пісягі ападаючых зорных сполахаў.




Глядзелі інакш на жыццё, яго прыгажосць і прывабнасць. (...)"

Ці ж гэта не ёсць верш у прозе?

І хаця аўтар у некаторых сваіх мініяцюрах схільны да апісання і змест бярэ верх над формай, дык нават і тады вопіс гэты насычаны мастацкімі формамі, уласцівымі вершу, што сведчыць аб схільнасці аўтара да асацыявання.

Зборнік, нягледзячы на яго невялікі аб'ём, выразна падзяляецца на некалькі частак як тэматычна, так і паводле формы. Знаходзяцца тут і паэтычныя мініяцюры, і вершы, і кароткія апавяданні. У кожнай з гэтых форм Целушэцкі ад пачатку да канца ідзе за голасам сваёй уражлівай душы, уражлівай перад усім на акружаючую прыроду, але тую, якая акружала яго дзяцінства, да якога вяртаецца як да вытокаў свайго паэтычнага „я". Назіраецца тут выразна дваістасць душы аўтара. У штодзённым жыцці Целушэцкі — гэта журналіст і такім знаюць яго чытачы „Нівы" і не толькі. Другое жыццё — гэта свет яго паэтычных летуценняў. Свет казачны, прыгожы, свет, які дбала і з мастацкім пачуццём раскрывае аўтар у сваіх творах. І тут як паэт стараецца быць ён пяўцом прыгажосці. Прыгажосць ён бачыць ва ўсім — у суме, у каханні (нават тым нешчаслівым), у вяртаннях, ва ўспамінах. Гэта і ёсць тое, што спалучае ўсю яго творчасць.

Янка Целушэцкі, як і большасць з пішучых па-беларуску, вырастаў на народнай традыцыі. І таму так часта ў ягонай творчасці паяўляецца жніво, дзявочыя спевы вечарамі, так многа прыроды, якая была селяніну Богам. Аўтар піша:

„...З белага поля вяртаюся дадому пад нізкім адвячоркам, калі так хораша, так чыста на душы пасля працавітага дня. За мной застаюцца прамяністыя мэндлікі снапоў. І песня плыве здалёк, лунае на волі між спеліх ніў: „А ў перапёлачкі ножкі баляць..."

Пачаткам усёй творчасці Я. Целушэцкага ёсць тое, што „была такая хвіліна радасці", як напісаў аўтар у адным са сваіх твораў. А зараз ёсць такая хвіліна радасці, што на творчай паліцы „белавежцаў" паявілася чарговая кніжка.

**Міхась Шаховіч**

## Піражкі з макам

Макотра доўга спала, і яе разбудзілі. Як у той грамадаўскай казцы. Праўда, казка дрэнна скончылася, але і цяпер новыя казачнікі нешта не прыкмячаюць у цёмным тунелі зялёнага святла. І разбудзілі Макотру не яны, а дальні і падазроны рокат, які заспеў сплюхоў у багатырскай фазе каляровых сноў.

З незмаўкальных гукаў, што імкліва ўрэзваліся ў напаўсонныя галовы, макотранцы выпавілі вабнае слоўка „плюралізм". Гіпноз незнаёмца настолькі быў моцны, што вырашылі яны высвятліць нутро гіпнатызёра навукова. Прымянілі гнездавы метад.

— Плю-плюсь-плюнь! — вокамгненна разгадаў загадку наш галоўны тэарэтык Шаман-Шамановіч.

Пан Мацюк — лацініст паглыбіў высновы майстра:

— Плюраліс — гэта значыць, множны... — тлумачыў сутнасць дзіўнай вабноты.

— Ага, многа пляўкоў! — зазяў ад радасці галоўны тэарэтык. — Струмень, вывяржэнне слізі! — зайшоўся творчым экстазам.

Згаладалыя па неймаверным (якое побач), макотранцы сышліся на тым, што дзеля пашырэння сферы ўжытку пляўкоў неабходна пабудаваць цэнтральную плявальню — з сучаснай машынерыяй і гукавымі эфектамі. А пакуль што ліпкую махроту вызвалялі натуральным спосабам. Цалялі з далёкай дыстанцыі і болей блізкай, у спіны і ў вочы, абменьваліся флюкамі і вытрахалі іх адзін другому на сонечныя лысіны. Урэшце, поўныя ўзаемнай агіды да




сябе, залезлі ў свае клеці (штурхаў таямнічы прышэлец) і пачалі пляваць у столь.

Аб'явіўшы плюралізм, макотранцы выходзяць да новых гарызонтаў раз'яднанымі радамі. Падзяліліся на тры лагеры: прыдуркаў, раз'юшанцаў і разявакаў. Прыдуркі робяць выгляд, што нічога не адбылося і, пасынаўшы попелам апляваныя лысіны, малююць на сценах раз'юшанцаў пацыфісцкія лозунгі „Мір з вамі", „Прабачаем і просім прабачэння". Раз'юшанцы, стаўшы (несвядома) на спадчынную класавую пазіцыю, якая заўсёды патрабуе праціўніка і ахвяр, пішуць трыумфатарскія пасланні і палітычныя даносы, выкрываюць агентаў „Х" і нясценных маляроў. Разявакі зашыліся ў густыя карчы і, прытаіўшыся, назіраюць за абставінамі. Яшчэ не ведаюць, якімі колерамі ўквечваць прывітальную браму.

У Макотры жыццё працягваецца.

**Сідар Макацёр**






### НЕ ДАРУЮЦЬ НАШЧАДКІ

Нават не магу лічыцца
беларусам,
Калі матчынаю мовай
пагарджаю,
Калі я паддаўся на спакусу,
Стаў амаль чужым у родным
краі.

Калі прадзедаў гісторыю
забыўся,
Сваіх родных песень не спяваю,
Значыць, ад зямлі кудысьці
адлучыўся,
Значыць, спадчыну сваю
я абкрадаю.

І нашчадкі мне ніколі
не даруюць
За абман, за здраду і калецтва.
Як гніляк, без цеплыні згару я,
Нават жару не пакінуўшы
ў наследства.

### ПРАЖЫЎ ТЫ ШМАТ

Пражыў ты шмат, не ганарыся,
А што ты добрае зрабіў,
Каб твае справы засталіся,
Каб кожны помніў і цаніў?!

Каб твае дзеці, ўнукі смела
Уперад з гордасцю ішлі,
Бацькоўскім вопытам умела
Тварылі шчасце на зямлі,

Каб гарады ў садах квітнелі
І на планеце быў спакой,
Да новых зор каб даляцелі, —
Вось запавет жыццёвы мой.

### НАШЫ КАРЭННІ

Жыццёвыя нашы карэнні —
У працы, вучобе, натхненні:
Яны прарастаюць вёскамі:
З летняй парой сенакоснаю.

Восенню шчырасцю, спелаю,
Калючаю сцюжаю белаю,
Песнямі задушэўнымі,
Марамі чыстымі, смелымі.

Жаданай сустрэчай,
расстаннем,
Незразуменнем, прызнаннем,
Далёкаю, блізкай дарогаю,
Радасцю, горам, трывогаю.

### МАЛАДОСЦЬ

Маладосць — гэта сонца
і хмары,
Гэта вецер і грому удары,
Гэта ўзлёт да вышынь
невядомых,
Шлях у сталасць з бацькоўскага
дому.

Перапоўнена светлаю марай
І імкненнем хутчэй быць
у пары..
У яе недаспаныя ночы
Ды празорліва свецяцца вочы.

Яна мае чароўную сілу,
У нябёсы арліныя крылы,
І на вецер не кідае словы,
І да новых здзяйсненняў гатова.

**Віталь Барадзін**




(Працяг са стар. 2)

далей. Спасылацца на яе як на справаздачу нельга.

Несумленны з Вас журналіст і ў тым, што дапісваеце ГРК тое, чаго яна не ставіла аб „занападзе навучання беларускай мовы, развале песенных калектываў і гэтак далей і гэтаму падобнае". Уводзіць чытачоў у зман, што Камісія ацэньвае ўзровень дыдактыкі настаўнікаў, калі да яе кампетэнцыі належыць усяго ацэнка супрацоўніцтва з імі. Пазітыўна выказаліся мы аб аматарскім руху (цытата: „дасягнута несустраканага ўзроўню"), але вось „гэтак далей" датычыла, бадай, прапановы прысвячэння аднаго пленума „Ніве" і ацэне кадраў БГКТ. Вас гэта датычыць. Нічога не гаворыцца аб іншых недахопах і прапановах ГРК, якіх было многа.

Фрагмент, прысвечаны пераказу пленарнай дыскусіі аб непрыналежнасці сакратара ГП В. Стахвюка да БГКТ, асветлены неправідлова. Не Валянціна Ласкевіч забіла „самы паражальны гол у вароты В. Стахвюка", а зрабіў гэта ён сам. Несустраканая гэта справа ў сусветнай практыцы грамадскіх арганізацый, каб, сімулюючы прыналежнасць (глядзі „Бел. каляндар БГКТ", 1991), нехта мог дайсці да рангі трэцяй пастаці ў кіраўніцтве. Успамянутая В. Ласкевіч як старшыня Беластоцкага аддзела БГКТ пацвердзіла толькі, што В. Стахвюк не даваў дэкларацыю і не прымаўся ў арганізацыю, а працаўнік Варшаўскага аддзела БГКТ Хведар Галёнка дапоўніў, што ён належаў да БГКТ, але ў 1975 годзе быў скрэслены. Рэакцыя сакратара — адмысловая. Замест прасіць прысутных прабачэння, пачаў выкручвацца загубленнем у аддзеле яго дэкларацыі. Калі не рэалізаваў статутовых заданняў, то ігнараванне аднаго пункта статута неістотнае. Пленум, крыху збянтэжаны, пакінуў вырашэнне пытання на ступені іроніі. Сорам і прэцэдэнт асталіся. Асуджайце вінаватага, а не тых, хто пацвердзіў праўду.

Другая палова артыкула прысвечана (на адходнае!) „безадказнасці і некампетэнтнасці" старшыні ГП А. Баршчэўскага. Ізноў нейкае незразуменне спраў, а можа ігра з пазіцыі партыйнасці. Адказнасць грамадскага старшыні ГП і яго грамадскага члена (Я. Максімюка) за дзейнасць БГКТ аднолькавая, іншая — штатных асоб. Я. Максімюк дагледзеў безадказнасць старшыні, а сам дазволіў выбрацца на гэтую кадэнцыю ў склад ГП, Прэзідыум і нават на сакратара. Як толькі звольнілася лепшае месца — праца ў „Ніве" — адмовіўся ад функцыі і прыналежнасці да Прэзідыума, а зараз і членства ў ГП. Мог зрабіць гэта падчас пленума, калі даконваліся змены падобных яму дзеячоў. Гавораце аб гонары, а самі не ўганаравалі волі часткі сваіх вы-

(Працяг на стар. 7)

## Свойскія малюнкі



## „Наша Ніва" - працяг

(Працяг са стар. 1)

даннем, сарыентаваным на лапцюжнае сялянства і гэтаму падобнае. Тут элементарная памылка: рэч у тым, што за папулізм у нас лічаць прастоту і непасрэднасць выкладу, незаштампаванасць мовы... За семдзесят гадоў у нас у журналістыцы напрацаваліся нейкія ідыёцкія штампы, стандарты, клішэ... Тады такога не было, „пісалася так, як гаварылася", але ж гаварылася пра рэчы вельмі глыбокія, без скідкі на, як кажаш, „грамадскі статус" свайго чытача...

*— Як бы ты прыблізна вызначыў патэнцыяльную колькасць чытачоў такой аднаўленай, „несавецкай", газеты? Ці шмат іх на Беларусі?*

— Вельмі шмат. Бо як разумець беларускасць, беларушчыну, свядомасць свайго нацыянальнага лёсу? Для мяне гэта не ёсць нейкі фундаменталізм, нейкі напышлівы монументалізм з нацыянальнымі лозунгамі, з „Жыве Беларусь!" на кожнай паласе... Не, гэта не тое... Я разумею беларускасць як усвядомленую сваю людскасць, чалавечнасць. Людзі засумаваліся па такой простай чалавечнасці, па простай жывой мове, якая да нічога не абавязвае, ну, не б'е па пысе, не ставіць у шыхт... Такіх людзей, калі хочаш ведаць, на Беларусі 10 мільёнаў. Вось на што мы разлічваем...

*— Ну, а глянуўшы практычна, з перспектывы рэдактара, які мае пусціць у людзі першы нумар свае газеты: як дайсці да тых чытачоў?*

— Калі трактаваць нашу газету як нейкі працяг старой „Нашай нівы" ў плане такой людскасці, аб якой я казаў, то варта таксама прыглядзецца і да вопыту колішніх рэдактараў, што тычыцца кантакту з чытачом. Асноўная карэспандэнцкая база „Нашай нівы" — гэта дописы звыклых чытачоў, неарыентаваных, так сказаць, ні на палітыку, ні на „чарнуху", ні на нешта там яшчэ... Людзі пісалі аб тым, што ім было цікава... Што да распаўсюджвання, дык мы ў савецкі час прызвычаіліся да адной магістральнай лініі: ёсць „Саюздрук" і ён распіхвае газету па кіёсках, арганізуе падпіску. Сёння газета на такім магістральным шляху, бадай, не выжыве... Досвед старой „Нашай нівы" ў распаўсюджванні падказвае нам, што трэба ўлічваць шматлікія формы кальпартажу — і розныя формы падпіскі (без пасрэдніцтва „Саюздруку"), і продаж на вуліцы газетнікамі, і шмат што іншае...

*— На чым грунтуеш сваю ўпэўненасць, што рэдакцыя будзе ў змозе выстаяць фінансава, гэта значыць, жыць за кошт распрададзенага накладу?*

— Ідэя выдаваць „Нашу ніву" ўзнікла ў нас, гэта значыць, у мяне, Паўла Жука і Алеся Гуркова, недзе год таму. Але тады мы вырашылі, што спачатку трэба арганізавацца, напрацаваць сувязі з друкарнямі, набыць вопыт у распаўсюджванні, словам, арганізаваць штаб людзей. Сталі выдаваць „Свабоду" — газету рэзкага радыкальнага кірунку, палітычную... І вось, гэтая „Свабода" ні разу не была стратнай... Іншая рэч, што сёння такі кірунак як бы бесперспектыўны, ён паволі будзе адыходзіць на задні план. Ёсць патрэба ў такім, я б сказаў, больш памяркоўным выданні...

*— Ці гэта значыць, што кідаеце выдаваць „Свабоду"?*

— Не, „Свабода" будзе выходзіць і далей, як палітычная газета, якая адлюстроўвае погляд апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце.

*— „Наша ніва", тая колішняя з 1906-15 г.г., зараз у беларускай свядомасці існуе як нейкая нацыянальная святыня, як нешта на п'едэстале, да чаго і падыходзіць боязна, а што казаць пра аднаўленне... Цікава, як ты сам глядзіш на сваю „дзёрзкасць" узнавіць яе, прынамсі выдаваць газету з такім самым назовам? І як глядзяць на гэта іншыя?*

— Калі мы хадзілі рэгістраваць газету ў Дзяржкамдрук БССР да старшыні Бутэвіча, ён адмаўляў нас, бо на ягоную думку і на думку Ніла Гілевіча ды іншых асобаў, як сказаў, не варта чапаць святыняў, не варта чапаць помнікаў. Паўлу Жуку прыйшла ў галаву тады цікавая аналогія: вось з акна кабінета старшыні Бутэвіча відаць аднаўлены храм Марыі Магдалены; туды, у тыя абноўленыя сцены прыходзяць зусім іншыя людзі, чымсьці раней, але ж ідэя застаецца той самай. Нешта падобнае з „Нашай нівай", хоць параўнанне са святыняй не зусім тут падыходзіць. Хутчэй за ўсё з аптэкай, якую зараз аднавілі ў Гародні. Сэнс той самы, хоць людзі зараз іншыя. Наконт таго, ці варта аднаўляць „Нашу ніву" ў прынцыпе. Справа ў тым, што яна ўяўляе сабою надзвычай удалую спробу газеты з чыста прафесійнага, журналісцкага пункту погляду. Далей: тыя ідэі, якія выказалі „нашаніўцы", актуальныя і зараз. Усё тое, чаго ім хацелася, сёння яшчэ не дасягнута, не здзейснена. Таму тут, у гэтым плане, працяг зусім натуральны. Калі я гавару аб працягванні, то я гавару з вялікім авансам для сябе. Бо ў плане нашай нацыянальнай свядомасці (трэба разумець: адэкватнай людскасці) мы адкінуты далёка назад у параўнанні з нашымі папярэднікамі, ці, лепш сказаць, адхілены далёка ўбок. Так што, мабыць, мы будзем пакуль што дарастаць да таго стану, у якім былі яны...

*— Калі выйдзе першы нумар новай „Нішай нівы"?*

— Мяркуем выпусціць яго пад канец мая г.г., якраз пад Міжнародны з'езд беларусістаў... Спачатку, мабыць, газета будзе выходзіць раз у месяц, пакуль не раскруціцца, потым мяркуем перайсці на двухтыднёвік, у канчатковым жа выніку — выдаваць як тыднёвік...

*— Што ж, поспеху вам і здароўя. Дзякую за размову.*

Размаўляў **Ян Максімюк**

# Іх папараць-кветка або У амерыканскіх беларусаў



*Аня Бартуль.*

**15. ДРУГІ ДЗЕНЬ СПАДАРЫНІ ВЕРЫ.**

— Ці ты маеш намер купляць сваім нейкія падарункі? — спытала ў мяне Вера.

— Уласна кажучы, нічога асаблівага я не планавала.

— Ну, як гэта так? Трэба ж нешта купіць! — запратэставала яна. — Паехалі на рынак, там усё напалавіну танней!

Мы доўга ехалі ад Манхасэта — мо кіламетраў дваццаць, калі не больш. Нарэшце пад'ехалі да велізарнага шматгектаровага пляца. У будцы сядзеў чалавек, які прымаў плату за ўступ на рынак. Вера заплаціла, здаецца, па два долары за асобу. Пакінуўшы самаход на неабсяжным паркінгу, мы ўвайшлі на рынак. Перад намі роўнымі радамі стаялі элегантныя раскладаныя будкі з самымі рознымі таварамі: і абуткам, і вопраткай, і сумкамі, і рознымі дробязямі. Можна было хадзіць і выбіраць цэлымі гадзінамі.

Сярод прадаючых было шмат усходніх тыпаў, жоўтых. „Адкуль яны? — падумалася мне. — Мо з Тайвана, Ганконга?“. Але большасць усё ж такі складалі белыя.

Чым характэрныя рынкі ў Амерыцы? А тым, што тыя самыя тавары, якія ёсць у магазінах, можна купіць намнога танней, бо продаж тут амаль без падаткаў. Мы ўбачылі дзіцячую куртачку, якую перад гэтым Вера мне паказвала ў вялікім магазіне. Там яна каштавала 90 долараў. Я жахнулася. Задорага! А тут за такую ж самую куртачку жанчына ў раскладанай будцы прасіла толькі 55. Я ёй сказала, што калі б яна аддала за пяцьдзесят, я б яе ўзяла. Жанчына адразу згадзілася. Таксама было і з ботамі, і з нейкай драбязой. Усюды ўступалі і выходзіла амаль удвая танней, чым у магазінах.

У гэтым моманце хачу падкрэсліць зычлівасць да пакупнікоў усіх прадаючых. Праўда, тавару было шмат і кожны з іх хацеў бы як мага хутчэй яго пазбыцца. Чуючы, што мы гаворым з Верай па-беларуску, людзі стараліся з намі гаварыць на падобнай мове. Найчасцей гэта была польская або руская мова. Два разы хтось загаварыў па-ўкраінску, а адна жанчына нават па-сербску. Гандлюючых беларусаў мы не сустрэлі. Усе былі вельмі ветлівыя і добрасумленныя ў адносінах да пакупніка. Успамінаецца мне адзін кітаец, які прадаваў розныя кітайскія ўпрыгожанні. Я выбрала сабе кітайскі веер на сцяну залацістага колеру, з блакітнымі кветкамі. Ён да колераў у маёй кватэры якраз падыходзіў. Я ўжо яго купіла, ды нават заплаціла 15 (замест 17) долараў, а кітаец, хаця мог бы іншых ужо і не паказваць, выцягнуў тых веераў штук дзесяць — і кожны іншы — і ўсё яшчэ паказваў свой тавар.

І раптам лінуў дождж. Умомант увесь тавар быў запакаваны ў вялізныя скрыні, палаткі разабраныя, складзеныя, і ўсё было запакавана ў стаячыя побач самаходы. Пляц апусцеў і, калі мы ад'язджалі, у мяне было такое ўражанне, што тут нічога не было, а тое багацце тавараў мне толькі прысніласся.



*Сп. Бартулёў на дачы ў сп. Андрусішыных.*

Мы вярнуліся дахаты. На шостую гадзіну вечара мы паедзем на работу да Ані. Прасіла маці дапамагчы, бо мае сёння складанага пацыента. Маці наогул ёй памагае ў прыватным кабінеце заўсёды. Усё ж такі, калі б узяць да дапамогі пастаяннага чалавека, трэба было б яму плаціць, а мама дапаможа, дык грошы застануцца ў Ані. Цяпер, калі наз'язджалася гасцей, Вера не надта мае час ездзіць да дачкі ў „офіс“. Тады выручае Антон. Прынамсі хоць прыме тэлефон і пагаворыць з чакаючым пацыентам.

Пакуль Вера будзе Ані патрэбная, яна звоніць у Саўт-Рывер. Дагаварваецца наконт залы, у якой беларусы хочуць арганізаваць канцэрт у фонд БНФу. Мае спяваць Сяржук Сокалаў-Воюш, які прыехаў у Амерыку. Вера дакладна распытвае, колькі што будзе каштаваць, колькі прыдзе на канцэрт людзей, вылічвае, які будзе даход. Трэба зрабіць канцэрт, пакуль яшчэ не выехаў Сяржук, а заспяваў

# X Міжнародны фестываль...

(Працяг са стар. 1)

за найлепшы журы прызнала Хор душпастырства праваслаўнай моладзі Святамікалаеўскага сабора з Беластока. У конкурсе хор выканаў *Возведох очи мои, Вечери Твоея тайныя, Христос воскресе, Единородный сыне, Споручнице грешных.* Сярод аматарскіх свецкіх хораў першае месца заняў Камерны хор Capella Musicae Antiquae Orientalis з Познані (у конкурсе заспяваў *Да воскреснет Бог, Боже, Боже мой, Милость мира, Достойно есть, Совет превечный, Хвалите имя Господне, Аллилуя).* Першае месца ў катэгорыі прафесіянальных свецкіх хораў журы прызнала Дзяржаўнаму хору беларускага радыё і тэлебачання з Мінска — у конкурсе хор прадставіў адну з самых багатых праграм: *Придите поклонимся, Блажен муж, Святый Боже, Хвалите имя Господне, Великое славословие, С нами Бог, Ангел вопияше, Богородица Дево радуйся, Буди имя Господне.* Журы прызнала таксама



*Журы фестывалю.*



*Хор душпастырства Беластоцка-Гданьскай епархіі.*

 


# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Мікола Янчанка

## СОНЦА НА АБРУСЕ

На стале ў любой кватэры,
На абед ці на вячэру,
Калі госць да нас заходзіць, —
На абрусе сонца ўсходзіць.

Цуд нібы, ўсе бяром мы
Залатыя лусты-промні
І з павагаю трымаем —
Маем хлеб
І радасць маем.

На паліцах хлеба многа —
І знікае прэч трывога,
З ім утульна, светла ў хаце
І матулі, і дзіцяці.

За духмяны хлеб і здобу
Шчыра ўславім
хлебаробаў,
Хлебапёкаў не забудзем:
„Дзякуй вам за працу,
людзі!"



*Светлыя маладыя пальчыкі елак працягнуліся к сонцу.*
*Фота М. Лукшы.*




11 мая адбыўся чарговы Цэнтральны агляд „Беларуская песня '91" для вучняў падставовых школ. На тыдзень-два раней у раёнах адбыліся элімінацыі. На Цэнтральны агляд былі выбраны найлепшыя. Але і тых добрых маладых спевакоў хапіла на пяць гадзін конкурсу, у якім кожны ўдзельнік выканаў па дзве песні.

У конкурсе выступіла каля 200 дзяцей. Было 13 салістаў рознага ўзросту — ад другога да восьмага класа, 4 дуэты, 4 трыо, 9 большых калектываў і два вялікія, больш чым па 50 чалавек, хоры.

Вялікі школьны хор пад кіраўніцтвам настаўніцы музыкі Галіны Наумчук з бельскай школы № 3 выступіў, як і ў папярэднія гады, з новымі, цікавымі дзіцячымі песнямі. Спяваў зладжана, умела. Адчувалася высокая культура выканаўства і шматгадовы ўклад працы. Хор заняў I месца.

Другі хор прывёз са Старога Ляўкова былы настаўнік музыкі Васіль Целушэцкі. І з яго хорам аматары дзіцячых конкурсаў ужо знаёмы. Члены гэтага хору не толькі спяваюць, але і граюць на розных інструментах. І яны выступілі ў конкурсе з поспехам. Занялі другое месца.

Вакальных і інструментальна-вакальных калектываў было дзевяць. Найбольш вядомыя ўжо з іх — „Жучкі" з Бельска, „Беларусачкі" з Дашоў, „Лянок" з Кляшчэляў, дзявочая група з бельскай „тройкі" ды народная група дзяўчат з Гайнаўкі.

Вельмі ўцешыў гледачоў новы калектыў маленькіх дзяўчатак з Кляшчэляў „Крынічанька". Арганізавала і кіруе ім настаўніца Яўгенія Такаюк. Яе „Лянок", які складаецца з дзяўчатак старэйшых класаў, займаў і ў папярэднія гады добрае месца і сёлета добра выступіў.

Як заўсёды, добрае ўражанне зрабілі хлопцы з калектыву бельскай „тройкі" „Жучкі". Яны сталеюць з году ў год, набіраюць сцэнічнага вопыту і, дзякуючы ўмеламу кіраўніцтву апекуна Сяргея Лукашука, хлопцы развіваюць свае таленты.

З прыемнасцю адзначаю шырокі ўдзел маленькіх дзяцей. У катэгорыі I-III класаў выступілі — група „Крынічанька", трыо з Грабаўца, гм. Дубічы-Царкоўныя, дуэт з Чыжоў і трое салістаў. І ўсе трымаліся на сцэне па-геройску.

Апошні раз удзельнічалі ў конкурсе для дзяцей салісткі калектыву „Беларусачкі". Яны ўжо канчаюць сёлета восьмы клас і на развітанне заспявалі ў трыо. Спяваюць яны ўжо даўно, галасы добрыя, і не было вялікіх цяжкасцей для іх выспяваць першае месца.

Добра выступілі і салісты. Асабліва спадабалася ўсім Марта Драль з Васількова, што каля Беластока. У яе добры голас, адчуваецца музыкальнасць і яна робіць агульнае вельмі прыемнае ўражанне. Марта Драль заваявала I месца сярод салістаў і атрымала ўзнагароду прыватнай беластоцкай фірмы **„Эльвімекс"**. Узнагароду гэтай жа фірмы атрымаў дуэт — Аркадзь Якімюк і Юля Карзуновіч з Чыжоў. Гэтая пара — вучні III і IV класаў, вельмі ж спадабаліся гледачам і ў дуэце і ў сольных выступленнях.

Наогул усе ўдзельнікі былі добра падрыхтаваны. Горш было з рэпертуарам. Калі ў нас паявіцца нейкая новая прыгожая дзіцячая песенька, а гэта не так часта здараецца, дык за яе хапаюцца ўсе. Так здарылася з сімпатычнай песенькай пра мышку і кошку, якую мы пачулі ў час конкурсу разоў з пяць. Дзяўчаткі з Орлі заспявалі песню „Бацькаўшчына", не мелі акампаніятара і збіліся з танацыі. Аказалася, што кампазітар гэтай песні Валянціна Сярых была членам журы гэтага конкурсу. Яна запрапанавала дзяўчаткам свой акампанемент і на канцэрце лаўрэатаў яны выступілі з кампазітарам у ролі акампаніятара. Старшынёй журы быў госць з Мінска — мастацкі кіраўнік і дырыжор Дзяржаўнага хору імя Цітовіча — Міхась Дрынеўскі. І ён, і кампазітар Валянціна Сярых дзівавалася багаццю ў нас маладых талентаў, а парывістая характарам Валянціна гатова была адразу прыступіць да працы з такімі здольнымі малышамі. Застаецца толькі мець надзею, што нам удасца выкарыстаць ахвоту спецыялістаў з Беларусі дапамагаць нашаму мастацкаму руху.

Добра спявалі дзеці з Гайнаўкі, і ў дзявочай групе, якую прывезла настаўніца Ірына Лукашук, і салістка Ася Масайла з Гайнаўскай школы № 2.

Асабліва хачу адзначыць удзел у конкурсе дзяўчатак з Беластока, дзе няма навучання беларускай мовы. Эва Ласкевіч, Ліза Сахарчук і Кася Санік самастойна падрыхтаваліся і выступілі ў конкурсе.

Конкурс закончыўся канцэртам лаўрэатаў, рэжысёрам якога быў адданы музыцы і дзецям настаўнік і дырэктар Бельскага дома культуры Сяргей Лукашук.

Вынікі конкурсу — у наступным нумары „Зоркі".

**Яніна Чэрнякевіч**




Авяр'ян Дзеружынскі

## ЛЯНОТА І АХВОТА

Мне паспаць
Яшчэ ахвота,
Прычапілася
Лянота
Да мяне
На ложку.
— Паляжы ты
Трошку, —
Шэпча мне на вуха.

Я ж яе
Не слухаў,
Прэч прагнаў
І — на зарадку...

Кнігі складзеныя
Ўпарадку.

Не звінеў яшчэ
Званок,
Я прыбег ужо
На ўрок.
Стаў настаўнік наш
Тлумачыць,
Тут Лянота,
Не іначай,
Да мяне
Прыстала зноў,
Прывяла нямала
Сноў.

Прычапіўся
Пазяхай,
Ціха кажа:
— Пазяхай.
Я крыху
І задрамаў,
Але сон мяне
Не ўзяў,
Я прагнаў
Сваю дрымоту,
Пазяхая
І Ляноту.

Добра чуў
І добра бачыў,
Як настаўнік
Растлумачыў
Вельмі цяжкую
Задачу.
Я рашу яе
З ахвотай.
Не прычэпіцца
Лянота.





 

## Малюнкі школьнікаў



*Малюнак да казкі „Залатая с якера". Томэк Федарук, IV клас, школа ў Храбалах.*

## Легенды і паданні

### ЧАМУ ВЕРАБЕЙ СКАЧА АДРАЗУ ДЗВЮМА ЛАПКАМІ І ЧАМУ Ў САВЫ РОЗНАЕ ПЕР'Е

Праштрафіўся верабей. Усе птушкі пагналіся за ім і загналі ў дупло. Але той быў такі хітры, што выбраў дзірку ў дупле якраз па сабе: большы за яго не ўлезе, а меншы калі ўлезе — ён яго выкіне. Вырашылі брацьуяго, як моцную крэпасць, на змор. Чакалі, аж настала ноч і ўсе захацелі спаць. Каго пакінуць на варце? Ясна каго, саву. Яна ўначы не спіць. Але сава была ў той час голая, як абшчыпаная курыца. Ну, і паставіла сваю ўмову:

— Усе ў пер'ях, то чаму я маю голая хадзіць? Скідайцеся па перыйку.

Усе скінуліся. Адзін пер'е шэрае даў, другі — рудае, трэці — белае ці карычневае. Стала сава, як і ўсе, толькі што пер'е дужа markednae рознае. Сядзела яна ўсю ноч, сядзела. А раніцай птушкі заспалі, і яна, начная істота, пачала куняць. Верабей вылез і ўцёк...

Урэшце яго ўсё ж спаймалі. І ў знак пакарання звязалі ногі. Цяпер скача ён дзвюма. А птушкі, як толькі ўбачаць саву, адразу кожная з іх сваё пяро дзярэ з яе. З гвалтам:

— Аддай мае перайкі, бо няма чаго было браць, калі ўсцерагчы не магла!

## Вершы Віктара Шведа

### ХАЧУ СОН УБАЧЫЦЬ

Перад сном у хаце
Маленечкі Віця
Просіць сваю маці:
— Святла не гасіце!

— Пры святле, сыночак,
І спачын сабачы.
— Мама, хачу ўночы
Добра сон убачыць.

### СПАЎ Я ВЕЛЬМІ ХУТКА

Прачнуўся сынок
Па паўднёвай дрымоце.
— Ты ад поту прамок,
Даражэнькі мой коцік.

На каленах прысеў
У матулі ціхутка
І сказаў: — Так спацеў,
Бо я спаў вельмі хутка.

**Беларускія гульні**

### МУРАШАЧКА

**Апісанне гульні:** на пляцоўцы дзеці рысуюць на зямлі круг, які называюць маткаю. Каб круг бачыць здалёк, у яго кладуць шапку або які-небудзь прадмет. У іншым месцы дзеці становяцца або садзяцца так, каб утварыць круг. Па лічылцы:

Мурашачка, букашачка,
Няверная кукушачка.
Заяц, месяц, дзе быў?
— У лесе.
— А што рабіў?
— Сена касіў.
— Чым жа накрыў?
— Скавародкаю.
— Хто ўкраў?
— Турнас —

дзеці выбіраюць Турнаса і разбягаюцца. Той, хто стаў Турнасам, ловіць іх. Каго ён зловіць, той памагае лавіць астатніх. Нейкі час можна адпачыць, калі схавацца ў круг, але затрымлівацца там нельга. Як толькі ўсе дзеці будуць злоўлены Турнасам і яго памочнікамі, гульню паўтараюць спачатку.

**Правілы гульні:** уцякаючы ад лаўца, дзеці могуць схавацца ў круг і адпачыць там; злоўлены ігрок дапамагае лавіць астатніх.

## Пазнавай свае веды

### РАБІННІК

Рабіннік — птушка сям'і драздовых, атрада вераб'інападобных. Пашыраны ў Еўразіі. На Беларусі шматлікі пералётны, пралётны і часткова зімуючы від.

Рабіннік насяляе ўзлескі лісцевых, мяшаных і хваёвых лясоў, рэдкалессі, даліны рэк, паркі, вялікія сады. Корміцца насякомымі, іх лічынкамі, чарвякамі, дробнымі малюскамі, зрэдку жабянятамі, восенню і зімой ягадамі.

Даўжыня цела рабінніка — каля 25 см, маса 87 — 103 г. Апярэнне галавы, шыі, часткі спіны і падхвосця — попельнашэрае. Спіна, плечы і частка крыла каштанавыя. Горла вохрыстае, з падоўжнымі чорнымі палосамі. Валляк і грудзі — рыжавата-вохрыстыя з чарнаватымі стракацінамі, накіраванымі верхавінай уніз. Брушка і падпаха — белыя. Хвост і крылы — чарнавата-бурыя. Дзюба цёмна-бурая, з жоўтай асновай, ногі чорныя.

Большасць рабіннікаў прылятае ў канцы красавіка. Песня рабінніка грубая, з скрыпучых, траскучых і флейтавых гукаў і шчэбету.

Рабіннік — вельмі мітуслівая і крыклівая птушка. Крык — „чак-чак-чак", пры небяспецы — траскучае „ра-ра-ра".

Рабіннік селіцца парамі або калоніямі да 30 пар і больш. Гняздо будуе звычайна ў разваліне ствала дрэва, радзей на бакавых галінах, на вышыні ад 2 да 14 метраў (адзначаны выпадкі гнездавання на платах і зямлі), масіўнае, паўшарападобнае, з сцяблоў травы, карэньчыкаў, лісця, змацаваных глебай або ілам. Высцілка гнязда рабінніка — з дробных сцяблоў і былінак.

Першая кладка яек — у канцы красавіка-маі, другая — у канцы чэрвеня-ліпені, па 4—7, светла- або блакітна-зялёных, з карычневымі плямінкамі. Яйкі наседжваюцца 10-11 сутак. Птушаняты рабінніка пакідаюць гняздо праз 10-11 сутак не здольнымі лятаць.

Рабіннік адлятае ў кастрычніку, зімуе ў Цэнтральнай і Паўднёвай Еўропе.



Рабіннік.

## Вершы аб роднай мове

### ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ:

... Ці мне жыць на свеце, ці мне куды дзецца?
Ой, Божа мой, Божа, нашто ж я радзіўся?!
Ой, нашто ж мне дана тая мая мова,
Як я не ўмею сказаць тое слова,
Каб яго пачулі, каб яго пазналі,
Каб яго то слова, ды праўдай назвалі;
Каб і разышлося то слова па свеце,
Як праменні сонца цёплага у леце;
Каб на тое слова ды людцы зрадзелі
Так, як тыя дзеткі на святой нядзелі;
Каб жа тое слова ды людцоў з'яднала,
Каб на тое слова ворагаў не стала;
Каб людцы прызналі братоў ды братамі —
Дзяліліся б доляй і хлеба шматамі.
А без таго слова я — нямы калека!..

### КАРУСЬ КАГАНЕЦ

... Ой, гора жа, гора над намі,
А ўсяму вінаваты самі,
Бо мову прыродную мы забываем,
Апратку, звычай на чужы мяняем.
Гэй, да схамянемась,
Ды са сну прачнемась!
Згоду ўраім,
Што е злога — паправім!..

### ЛЕАНІД ДАЙНЕКА:

На радзіму прыехаць, дзе лясы не заснулі
І шумяць і пяюць і вясной і зімой.
Цябе з цёплай усмешкай сустрэнуць бабулі,
Скажа кожная з іх:
— Салавейка ты мой...

Як лясныя пажары, ішлі чужаніцы.
Кожны колас у полі абмыўся крывёй,
Ды жыло і ў барах, і ў сцюдзёных крыніцах,
Нібы сонца прамень:
— Салавейка ты мой...

Той народ не памрэ, у вяках не растане,
Той народ будзе крочыць хадой маладой,
У каго апроч слоў „барацьба" і „змаганне"
Ёсць такія вось словы:
— Салавейка ты мой...


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

## ОЙ, У САДОЧКУ ЦВІЛА ЛІЛЕЯ
*(народная)*

Ой, у садочку цвіла лілея,
Дажала жыта старшая жнея,
Збор жыта, збор!

Па нашым полі беглі лябёдкі,
Дажалі жыта красны малодкі,
Збор жыта, збор!

Па нашым полі беглі ягняты,
Дажалі жыта красны дзяўчаты.
Збор жыта, збор!

А наш вяночак не па такому
Кожны каласочак па залатому.
Збор жыта, збор!

Каб мы здаровы жытка спажывалі
I год шчаслівы зноў дачакалі.
Збор жыта, збор!

Засцілай маці, сталы і лавы,
Бо да цябе йдзе госць небывалы.
Збор жыта, збор!

Moderato con moto

## ЖЫЦЦЁ ХОДЖЫ

Будучы ў чужым горадзе, папаў Ходжа Насрэддзін на мясцовы могільнік і там убачыў на магільнай пліце вельмі дзіўны надпіс: „Падышах гэтага горада Султан Абдумалік Абдумуталіб, вядомы ўсяму свету, памёр ва ўзросце трох гадоў". Ходжа здзівіўся і запытаў у мясцовага шэйха:

— Як жа мог праславіцца гэты падышах, калі памёр у тры гады ад нараджэння?

— Не, — сказаў шэйх, — Султан Абдумалік памёр на семідзесятым годзе ад нараджэння, але з іх толькі тры гады пражыў у радасці, і таму завяшчаў толькі гэтыя тры гады лічыць яго пражытым жыццём...

— Ах, так! — усклікнуў Ходжа. — Тады я магу завяшчаць, каб на маёй магіле зрабіць такі надпіс: „Мула Насрэддзін з чэрава маці адразу папаў у труну!".

# НІЎКА



*Мал. Адама Сяменчыка.*

## АПАЛОНІК

Прафесар-псіхіятр наведаў бальніцу для псіхічнахворых і пацікавіўся ў галоўнага лекара, як яны вызначаюць, выздаравеў пацыент, ці яшчэ хворы.

— Мы напаўняем ванну вадой, кладзем на край лыжачку і загадваем хвораму ўстараніць ваду. Калі пацыент хапаецца за лыжачку і з усіх сіл старaецца выканаць заданне, значыць, ён яшчэ хворы. А калі выцягвае ў ванне корак, дык здароў.

— А мне і ў галаву не прыйшло б такое вырашэнне! — ускрыкнуў прафесар. — Я папрасіў бы апалонік.

## МІНІ-КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 8) кіраўнічка, распарадчыца, 9) галіна прамысловасці, якая выпускае маторы.

**Уніз:** 1) вышэйшая мэта, да якой імкнуцца людзі і якая кіруе іх дзейнасцю, 2) цытрусавае дрэва або яго плод, 3) чалавек вялікай фізічнай сілы, 4) плод гароху, 5) чыгунны кацёл, 6) халодная страва з гародніны, 7) абраз з выявай святога.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з № 17: Упоперак:** меладраматызм, буржуй, рахуба, старшакласнік. **Уніз:** езуіт, Алжыр, рэйка, марал, Тэхас, Зубкі.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае Аляксандр Дабчынскі з Беластока.

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | 2 | | 3 | | 4 | | 5 | | 6 | | 7 | |
| 8 | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | |
| 9 | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | |

# Анекдот з барадой і без

## КАРЛСАН І ЭНГЕЛЬСАН

Прачынаецца Брэжнеў на сваёй дачы. Выйшаў на двор. Аж раптам бачыць — Карлсан ляціць.

— Ты хто такі? — пытае Брэжнеў.

— Карлсан.

— Што значыць Карлсан? Які такі Карлсан? Куды глядзіць ахова?

— Ну, як жа, — кажа Карлсан, — вы што, пра мяне ў кніжцы не чыталі?

— Хм... Карлсан, Карлсан... — задуменна мармыча Брэжнеў. — Ах, Карлсан! Ну як жа, як жа! А дзе ваш сябрук і паплечнік Энгельсан?

## ДАМУ НА ТАНЕЦ

Брэжнеў на пасяджэнні Палітбюро:

— Таварышы! У нас у Палітбюро назіраецца склероз. Учора на пахаванні таварыша, таварыша... (Дарэчы, дзе ён?), калі зайграла музыка, толькі я адзін здагадаўся запрасіць даму на танец...

## У НАРАД, У НАРАД!

Старшына роты выстраіў на пляцы навабранцаў:

— Вы ў мяне будзеце працаваць, працаваць і яшчэ раз працаваць!

— А як наконт „вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца"? — выкрыкнуў нехта са строю.

— Хто гэта сказаў?! — грозна насупіў бровы старшына.

— Гэта сказаў Ленін!

— Ну, а вас, Ленін, я бяру ў нарад, у нарад і яшчэ раз у нарад!

## ПІК ПЛЮРАЛІЗМУ

Пытанне: — Што такое пік плюралізму?

Адказ: — Гэта калі думка Прэзідэнта абсалютна не супадае з думкаю Генеральнага Сакратара.

## КОЛЬКІ ІХ РАЗВЯЛОСЯ!

Цагліна са страхі звалілася на галаву грамадзяніну — і насмерць. Збегся натоўп. Усе абураюцца:

— Ах! Ах! Дакіраваліся, ужо і цагліны сталі на галовы падаць! Людзям хадзіць страшна!

Тут адзін з натоўпу нахіліўся над нябожчыкам:

— Браточкі, ды гэта ж таварыш з апарата!

Усе дружна:

— Ах, ах! Колькі іх развялося ў апараце. Ужо і цагліне няма дзе ўпасці!

## НІХТО

Сустрэліся на тым свеце Брэжнеў і Чарненка, размаўляюць:

— Ты не ведаеш, хто там цяпер у Маскве галоўны?

— Ведаю, Мішка Гарбачоў.

— А хто яго падтрымоўвае?

— Ніхто яго не падтрымоўвае. Ён сам ходзіць.

*(„Вожык")*

**Васіль Краўчук**

## АРГУМЕНТ

— Ты што, выходзіш замуж,
Рая? —
Пытаюць сяброўку дзяўчаты.
— Яшчэ вагаюся, бо я пакуль
не знаю,
Якая ў любага зарплата.

## УНІКЛА Ў РАБОТУ

У кіёск уладкавалася
І ў той жа дзень адразу
Таблічку прычапіла:
„Я пайшла на базу".

*З украінскай мовы пераклаў В. Бабей*


# Ніва

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар).

„Niwa", ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

I. Prenumerata pocztowa

1. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na III kwartał 1991 r. upływa 20 maja 1991 r.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 13.000 zł + 6.500 zł za doręczenie. Od lipca 1 egz. kosztować będzie 1.000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1800 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
— maj — 7.200 zł.
— czerwiec — 9.000 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 23.400 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok. 5021-3203-132.

Zam. 554/91.


## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ

**М. Гайдук: А мы праўду добра ведаем... ● В. Луба: Размова з віцэ-міністрам культуры Беларусі. ● А. Максімюк і Прысутнасць ● С. Яновіч: Беларускія рашады ● Л. Глагоўская: Усевалад Ігнатоўскі нарадзіўся ў Такарах ● А. Чачуга: „Беластоцкая мальва '91" ● Я. Максімюк: Звоняць „Званочкі" ● І. Лукша: Дзед Костусь.**